# Малая літаратурная кніжка

Злажыў ды выдаў
Мацей Рэпкаў Смаршчок
2006

## З НАРОДНАГА

Чаму-ж мне ня пець,
чаму-ж ня гудзець,
калі ў маёй хатаньцы
парадак ідзець...

Чаму-ж мне ня пець,
чаму-ж ня гудзець—
мушка ў аконцы
у цымбалы б'ець.

Чаму-ж мне ня пець
чаму-ж ня гудзець—
павучок на сьценцы
кросенкі снуець..

Чаму-ж мне ня пець,
чаму-ж ня гудзець—
сучка на лычку
дабра сьцеражэць...

Чаму-ж мне ня пець.
чаму-ж ня гудзець,
калі ў маёй хатаньцы
парадак ідзець...

НАТАЛЯ АРСЕНЬНЕВА

Магутны Божа, ўладар сусьвету,
вялізных сонцаў і сэрц малых–
над Беларусьсю, ціхой і ветлай
разьлі праменьне свае хвалы.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
палеткам нашым пашлі ўмалот–
зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу і наш народ.

## ЎЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

### Песьня, ўшчунь!

Край ня знаў наш песень чыстага мажору.
поруч з весялосьцяй смутак і туга.
Гэтыя палеткі, гэтыя разоры.
нельга... льга...

Чуў я навальніцы, чуў і пушчы гоман,
і азёр, і мора гоманы я чуў.
Жалю, крыўды нейкай так было ў іх многа...
Песьня, ўшчунь!

А яна ліецца ды праз сенажаці
і з дзявочых вуснаў і з цымбальных струн.
У шчамлёткі сэрца пачало сьціскацца
не ў пару...

Хай міноры песень сэрца болем пояць –
смутак родзіць радасьць, родзіць весялосьць.
Пунсавеюць хмары над радзімым полем...
Шчасьце ёсьць!

МАКСІМ ТАНК

## На шляху дзікіх гусей

Вецер кудлаты  на нівах калосьсе гайдае,
стужкай дзрога з пад мокрых калёс выбягае
там, дзе бярозы плакучае зьвесілі вецьце,
там, дзе адны толькі хмары, і месяц,, і вецер.

Ноч палахлівая, летняя ноч над зямлёю
зорнаю сьцежкай адходзіць, чорны кот крадучы.ся...
Сны, што мінулі, што засталіся са мною,
з ценьмі бяроз падарожных спляліся.

Іду па шляху пясчаным, няроўным,
кій і торба песень вандроўных,
і ад астрога і да астрога плятусь–
Беларусь ты мая, Беларусь!

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## ПАГОНЯ

Як толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,–
Рвуцца, ймкнуцца і цяжка хрыпяць.
Старадаўнай літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць!

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі,прад вамі – гады...
Вы за кім у пагоню сьпяшыце.
Дзе шляхі вашы ймкнуць і куды.

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі у здагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі й аддалі у палон.

Беце ў сэрцы іх – беце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына,
За цябе яму ўмерці дазволь!

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срыбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўнай літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць...

ЯНКА КУПАЛА

А хто там ідзе, а хто там ідзе
Ў агромністай такой грамадзе.
–Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях.
–Сваю крыўду.

А куды-ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды-ж нясуць на паказ сваю.
–На сьвет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несьць навучыў, разбудзіў іх сон.
–Бяда, гора.

А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім.
–Людзьмі звацца.

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## Апокрыф

1. Ад Максіма кніжніка пачатак...

. . . . . . . .

2. І Калі скончылася сем тысяч год ад стварэньня сьвету, Хрыстос ізноў зыйшоў на зямлю й хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым сьведчылі прарокі.

3. І хадзіў Ён па ўсім Забраным Краі – і па Занёманшчыне, і па Задзьвіншчыне, і па Бярэзінскай зямлі.

4. І разам з ім сьвяты Пётра і сьвяты Юр я. Але ніхто зь людзей не пазнаваў Яго.

5. Бо йшлі яны босымі нагамі зь непакрытымі галовамі й былі адзетыя у белы кужаль ды суконныя сьвіткі, а не таго спадзяваліся людзі.

6, Таму ніхто ня ўзяў увагі на іх калі ў часе жніва прайходзілі між працуючых людзей.

7.Толькі музыка, катораму цяпер ня было чаго рабіць, ,падыйшоў да іх і сказаў. сорамна мне, бо сягоньня дзень працы і ўсе клапоцяцца каля зямлі. Адзін я нікчэмны чалавек.

8.І сказаў яму Хрыстос. ня смуціся ў сэрцы сваім. Ці-ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер, у часе жніва! Таму ня схіляй нізка галавы твае,, і не хавай аблічча ад вачэй людзкіх.

9.Бо няма праўды ў тым. каторы кажа, што ты – лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе. надыйдзе яму гадзіна горычы – і чым ён разважыць тугу сваю, апроч песьні твае. Як у дзень смутку, таксама у дзень радасьці ён прызавець цябе.

10. І навучаючы яго, казаў. пад песьні кладуць чалавека ў калыску, і зы сьпевамі-ж апушчаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клопатамі поўніцца жыцьцё людзкое. Але калі зварухнецца душа чалавека,–толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы ў багне, а ці-ж ня лепшымі будзеце вы за іх.

13. Так навучаў Хрыстос музыку, Але Пётра, пачуўшы словы Яго, сказаў. Вучыцелю, у гэтай краіне ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці-ж ня сьцісьнецца ад сораму сэрца таго чалавека, каторы, шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе зь песьняй да іх.

14, І адпавядаючы яму, сказаў Хрыстос. так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш яшчэ пазбавіць іх красы! Мала дадзена ім – няўжо-ж трэба, каб было яшчэ менш,

15 І, абярнуўшы аблічча сваё да музыкі, папытаўся. калі пяюць песьні у вас.

16. Музыка адказаў. пяюць на Коляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках.

17, Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы, пяюць на ігрышчах і на вясельлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і пры працы, і на вайну ідучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Ўвесь круглы тод пяюць.

18. І мовіў Хрыстос Пятру. ты, шкадуючы галодных людзей, асудзіў песьню, але самі галодныя не асудзілі яе. Жывая яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра. але няхай-жа ў песьнях будзе страва для душы, няхай будуць думкі добрыя і навучаючыя, каб апроч красы, быў у іх і спажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос. няма красы без спажытку, бо сама краса й ёсьць той спажытак для душы.

21. І навучаючы іх, мовіў. аглянецеся навокал! Ці-ж ня ніва калыхаецца каля нас.

22. Цяжка каля яе працаваў гаспадар і, вось бачыць. паміж збожжа ўзрасьлі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім. хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі, бо поўнаважныя каласы маглі-б узрасьці тут заміж васількоў.

24, Але, яшчэ з малалецьця краса іх прыйшлася мне да душы. І таму я ня вырву з каранём іх і ня выпляню, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у малентве, сэрца маё.

25, Так казаў сабе гаспадар у сэрцы сваім! І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я-ж кажу вам. добра быць коласам, але шчасьлівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў.

27. І. кажучы так, пачуў Ён песьню жнеек, і прамовіў. слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, якія ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны-ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць. няма лепш цьвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі йшлі яны.

29 І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым, мяккім пыле дарогі сьляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх  Амін.

Рукапіс гэты адшукаў  Максім Багдановіч.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Мужыкі, браты мае родныя!

З пад шыбяніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас, і можа астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе , дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль загінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, да шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі ўрадзе жыць у дастатку, і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, ўзбагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца й народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзівая ня ідзе разам зь няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе прадўы, ня будзе багацьця і ніякае навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу.

Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з пад шыбяніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжо ня будзе.

ЯЗЭП ПУШЧА

## З лістоў да сабакі

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы
Далёка ад цябе, мой любы дружа.
Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,
А ў збане на акне юнацтва ружа.

Вятры павеюцьхутка золкай сьцюжай,
І ліст крывавы свой яна ўроніць.
Праходзіцьме натоўп з душой няўклюжай
І ў гразь утопча, апусьціўшы скроні.

І толькі я адзін, паэт бяздомны,
Над ім схілюся й акраплю сьлязамі,
Тады забросьнеюць душы затоны
Калі ў грудзёх мой дух зусім мне займе.

А покуль б е жывой вады крыніца
І хваля творчая гарачым пульсам,
Нашто-ж мне мне пдхалімам быць, крывіцца
І ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам.

Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў
І супраць ветру размахнуць крыламі.
Хто хоча– кпіце над пясьнярскім лёсам
І бэсьцьце, лайце у гандлярскай краме.

Трывожнасьць рытму песьню агартае,–
Нязнана востры боль у адчуваньнях .
Мне лепей быць звычайным бы ратаем
Чым грэх з сябе змываць ў атрутнай ванне.

Даруй, што я пішу таб е аб гэтым,–
Тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да рассьвету,
Вуглоў каб не разнесьлі людзі вуліц.

Я ведаю –цяпер у вас там восень
І ночы чорныя жуду калышуць.
Вятры лісты ажоўклыя разносяць
І намятаюць гурбамі ў зацішак.

І ты адзін правёў у ноч такую
Правёў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожны год сьвяткую
І слухаю, ці ў дзьверы хто ня дрогне.

Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось рукі заламў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак,–
Пішу аб гэтым я табе з Расіі.

ЯЗЭП ПУШЧА

Мая прыгожая! Ня ведаю, адкуль ты й хто такая.
У першы раз красуню дзіўную такую спатыкаю.

Ў тваіх вачох затоена трагэдыя людзкога гора,
Здаецца мне, што з хвалямі валос тваіх  вятры гавораць.

Табе паэта юны на прадвесьні зложыць песьню песень,
Акорды-сокалы ўзьвіюцца аж да зораў паднябесься.

Музыкі ўчуюць іх, і смутак струн уцехаю зальецца–
І  славіць будуць ўсе імя тваё праз цэлыя сталецьці.

Паэты, ліры гучныя свае на новы лад настройце!
Ўсе славіць будзем існасьць – толькі ў вобразе ня тройцы.

Ідзе нявеста з поля ў горад, хцівым бляскам скрозь заліты,
Ідзе у зморы, – спачывае ўночы на каменных плітах.

Ідзе адна пуцінай зьбітай, торнаю да сьвету, шчасьця...
Яна у росквіце красы, у росквіце свайго юнацтва.

Вятры ўзьняліся зноў і хіляцца дубы старыя.
Я першы сладўлю імя й называю вам яго – Марыя.

ЯКУБ КОЛАС

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
ад казак вечароў,
ад песень дудароў,
ад сьветлых воблікаў закінутых дзяцей
ад шолаху начэй,
ад тысячы ніцей,
зь якіх аснована і выткана жыцьцё
і злучана быцьцё і нябыцьцё, –
зьбіраўся скарб, струменіўся няспынна,
вясёлкавым ірдзеньнем мне сьпяваў,
і выхаду шукаў
адбітак родных зьяў
у словах-вобразах, у песьнях вольнаплынных.

І гэты скарб, пазычаны, адбіты,
у сэрцы пераж ыты
і росамі абмыты
дзяньніц маіх, дзяньніц маіх мінулых,
для вас, душою чулых,
як доўг, як дар
дае пясьняр.

ЯНКА КУПАЛА

О, так, я пралетар...
Яшчэ учора раб пакутны –
сягоньня я зямлі ўладар
і над царамі цар магутны.

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет...
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно, ня збыў яшчэ ўсіх бед –
мне сьняцца сны аб Беларусі...

## ЎЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст,чырвоны цьвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасьцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй пад колер сталі
Праменьне яснае люблю.

Варожасьць шляху не зачыніць,
У перашкодах дух расьце.
О, Беларусь, мая шыпшына!
Зялёны ліст, чырвоны цьвет.

## НАРОДНАЕ

А шчука рыба ў моры
дый гуляе ва волі...
Быў у маці адзін сынка
дый той ня мае долі

Выйшаў ён зд варота
ды і стаў як сірота.
Ніхто-ж яму ня спрыяе
бо ён долі ня мае.

Ой, прадай ,маці коня–
ды каня вараннога,
ды ажані, маці, сына –
сына маладога.

Не вялела маці
каня прадаваці –
піша чорным па беламу,
трэба ў службу ўступаці.

Ой, няхай сабе піша –
я таго не баюся,
сам малады, конь вараны,
то яшчэ выслужуся.

Ой, ня дай Божа сьмерці –
ў чужым краю памерці.
Ой, хто-ж мяне захавае
ад салдацкае сьмерці...

Салдаціка убілі
пры крутой пры дарозе
Плача міла, пралівае
ўсё драбненькія сьлёзы...

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя,узяты
Ткаць залатыя паясы.

І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсыдзкі ткуць яны.

А за вакном сьмяецца поле ,
зіяе неба з-за вакна,–
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцьвіла вясна,

Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срыбрам зьзяюць хвалі
Між гор ліючае ракі,

цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж пэрсыдзкага вузору
Радзімы цьвецік васілька.

ЯЗЭП ПУШЧА

Ня змогуць завесьціся ў словах мікробы
Патручаны ўсе сулімою і воцтам.
Паэты Заходняй, Усходняй Эўропы –
Вам ліст пасылаю сакрэтнаю поштай.

Вялікую страту дзяржавам учыніць
Ня возьмуць зь яго ні цэнзурных ні мытных.
Паэты, хто дзьверы з вас першым адчыніць,
Хто схоча пачуць беларускія рытмы.

Даўно вы паэзыі ўжо ня чыталі –
Абрыдла як вам і жыцьцё і плянэта!
А ў нашай краіне пад гукі цымбалаў
Уцешныя песьні сьпяваюць паэты.

У пушчы шумлівай, дуброве зялёнай
Мы ловім і любім таемнае штосьці.
Там нашы эстрады, там нашы салёны,
К нам вецер увосень зайходзіць у госьці.

Яго мы частуем рабінавым сокам.
Каб ведалі толькі, якая ў нас восень!
Ліст кожны ўзьвіваецца ў неба высока
І ветры пад зорамі белымі носяць.

У нашых пpасторах шмат казачных шумаў.
Ці быў хто калі з вас у нашым Палесьсі
Ці бачыў, як сінія хвалі сумуюць
А людзі сьпяваюць спрадвечныя песьні.

У гэтым сягоньня і наша уцеха,
Ад гэтых вось песень мы й вучымся ладу.
Паэты у нас не разьбіты на цэхі,
Ніхто не складае дакучных балядаў.

Ў нас новыя творацца песьні і жанры,–
Ня любім мы толькі кляймо на іх ставіць.
Паслухайце раніцай, вечарам раньнім
Як ветры старонкі кніг нашых лістаюць.

Мы блізкія сёньня людзям і прыродзе,–
Ў нас пульсы крывёю зьвярынаю б юцца.
Ці чулі што-небудзь аб нашым народзе.
Ці чулі што-небудзь аб вечным бязпуцьці

Ліст гэты пішу я да вас з Беларусі
Дзе зоры вачэй аніколі ня плюшчаць...
Вітаньне з паклонам зрываецца з вуснаў.
Бывайце, бывайце!... Вітае вас
Пушча.

ВАСІЛЬ БЫКАЎ

# РУЖОВЫ ТУМАН

Было іхнае сьвята, і яны з кветкамі і сьцягамі ішлі да скамянелага правадыра. Іграў аркестар. Блішчэлі трубы, ад даждджу блішчэў граніт помніка, гарадзкое навакольле адбівалася ў мокрым асфальце. Усе былі бяз кепак ці капялюшоў– сівыя, лысыя, з мокрым пушком галовы, сурова-пакутныя позіркі на старэчых тварах. Адзін нёс невялічкі вазончык бягоняў, які ашчадна трымаў аберуч, на сагнутай руцэ вісела клюка. Сярод іншых старых ён вылучаўся шыкоўнай , белай, амаль дзедмарозаўскай барадой, што ляжала на ягоных далёка не багатырскіх, змарнелых грудзёх. Як падыйшоў за іншымі да пастамэнту, няспрытна сагнуўся і паставіў свой вазончык, а, выпрастаўшыся, нязграбна, бы саромеючыся, перахрысьціўся.

–Глядзі, Барсук! – амаль з захапленьнем тузануў за рукаў сябра Вінцэсь. Жывы, ты глядзі...

Так, гэта быў Барсук, жывы і быццам здаровы, якога Ляксей зь Вінцэсем памяталі яшчэ з ваенных гадоў, як жылі ў тым горадку, дзе пражыў вайну і гэты стары, глуханямы чалавек з прозьвішчам ці мянушкай Барсук.

–І, здаецца, усё ранейшы, – не сунімаўся Вінцэсь.

Дзіўна, аднак, што ранейшы. Жыцьцё цт натура таму прычынай. Або, можа, ружовы туман падману, разьвеяцца якому ўпарта не даюць абставіны. Такія, як у гэтым выпадку з Барсуком.

Ён зьявіўся ў тым горадку-мястэчку пры бежанстве. У першыя дні вайны з Заходняй Беларусі уперамешку з войскам рынуліся і шмат якія з цывільных. Адныя ехалі на вайсковых машынах, іншыя на фурманках, а болей ішло пехатой – з клункамі, валізкамі, дзецьмі. Барсук вырваўся з пекла, падобна сам, адзін. Усе ягоныя сямейнікі недзе прапалі., і ён прыпыніўся, чакаючы іх, у мястэчку. Мабыць, думаў чясова, ды так і асеў на ўсе гады акупацыі. Жыў у старой бабкі ля рову, зарабляў, чым мог – капаў грады, сек дровы, а то рамантавзў абутак. Еў, што дадуць, часта галадаў, і ўсё чакаў, казалі, сваіх – жонку і двух дзяцей. Ды ішоў час, а сямейнікі Барсука не аб яўляліся. Часам было яму дужа кепска, але ў лес ня йшоў. Ды іхто-б яго ўзяў у лесе ў партызаны – які набытак з глуханямога. Хоць часам да яго наведваўся суседзкі хлопец Валера, які, як тое некаторыя ўведалі, меў справу зь лесам, і то

прападаў на тыдзень-другі, то цішком зьяўляўся ў гарадку. Барсук яму быў патрэбны, каб падрамантаваць боты, то наладзіць трафэйны гадзіньнік, у якім, як аказалася, неяк разьбіраўся Барсук .

Аднойчы гэты Валера заявіўся не адзін, а зь незнаёмым хлопцам, сяржантам з дэсантнікаў. Ў іх была адмысловая справа – апрабаваць прадуктовыя карткі. Так, звычайныя карткі рацыянаванага продажу крупаў, мукі, солі, якія выдаваліся службоўцам нямецкіх установаў, і якія наладзілі падрабляць у лесе. Ці, можа, у якой гарадзкой друкарні. Значыцца – фальшывыя карткі. Вядома, для такой апэрацыі апрабаваньня Валеры мог -бы паслаць сястру Нінку ці цётку Ганулю, але-ж , мабыць, іх было шкада. Т ён вечарком з напарнікам насыпаўся да Барсука.

Якраз у той тыдзень Барсук сядзеў бяз працы і бяз хлеба, даядаў апошні чыгунок бульбы, што зарабіў за рамонт коміна у суседзяў. Солі ў яго ня было даўно. А тут раптам , двое лясных гасьцей , партызанаў, гэтак сардэчна пытаюцца – як жывеш. Спачуваюць , і шчодра надзяляюць карткамі. На, схадзі у лаўку, а тавар нам прынясеш і сабе возьмеш. Нам што-нішто, галоўнае – цыгарэты, астатняе возьмеш сабе. Мы людзі вя скваплыя, мы савецкія партызаны...

Барсук ня мог паверыць – такая раскоша! І такія слаўныя хлопцы –гэтак сардэчна пашкадавалі адзінокага дахадзягу-інваліда! На тым тыдні на рынку паліцаі адабралі ў яго здатныя боты, якія хацеў памяняць на хлеб. Ды яшчэ далі высьпятка ў зад. Гэтыя-ж во –задарма даюць карткі – маргарын, соль, мука...

Ён ня йшоў – ляцеў з тымі карткамі у краму, дзе атрымаў усё, што належала. Гэтак-жа шыбаваў дадому, дзе трохі засмуціўся, бо хлопцы чамусь яго не дачакаліся. Яны прыйшлі толькі ўначы, распыталі, як і што, і яшчэ далі картак, якія дужа тады падтрымалі згаладнелага Барсука.

Пасьля вайны Барсук некалькі разоў спатыкаў у гарадку пасталелага Валеру, і кожны раз цалаваў ягоныя рукі – такі слаўны быў той партызан. Гэтак уважыў стярога! Асабліва, калі даў Барсуку даведку, быццам той – сувязны партызанскага атрада асобага назначэння » Граніт«. Менавіта тая даведка дала яму сілы жыць пасьля страты сям і. Праўда, неўзабаве ён выйшаў на пэнсыю з быткамбівату, дзе рабіў на розных работах, і нават выбіўся ў майстры. Цяпер-жа ён дужа перажываў распад СССР. Асабліва як дазнаўся, што Валера вялікі начальнік, робіць ве ў Беларусі і наўрад ці прыедзе на рэвалюцыйнае сьвята. І ўсё з прычыны кардонаў, мытняў, разрыву эканамічных сувязяў. Валеру тут яшчэ памяталі з вайны, і найчасьцей успамінаў яго з цеплынёй у старэчым позірку дзевяностагадовы Барсук.

Ужо ён быуў упэўнены, што Валера ня здрадзіў вялікай справе Маркса-Энгельса-Леніна. Ды і Сталіна таксама. І Барсук ве хацеў здраджаць, бо здрада – заўжды кепска. Як пазванілі з савету вэтэранаў, каб прыйшоў на ўскладаньне кветак да помніка правадыру, ён і прыйшоў. Прынёс свой апошні вазончык з бягонямі, бо трэба-ж было уважыць і правадыра, і змагароў за ягоную справу, і Валеру, і таго сяржанта, якія некалі гэтак уважылі адзінокага, пагарджанага нямога.

Зрэшты, пасьля вайны тая гісторыя з Барсуком стала вядомая многім.

Праўда, пра яе ня ведаў адзін толькі Барсук. Ці варта было яму пра тое расказваць. Ці паверыць.

Можа, хай жыве у сваім ружовым тумане, дажывае век і носіць вазончыкі да падножжа помніка. Тым болей , што цяпер можна ўжо перахрысьціцца –адкрыта, і нават з замілаваньнем...

## ЯЗЭП ПУШЧА

Эх, вёска!
Верасьнёвая прозалаць, кроў...
Ну, чаго так зайшліся цымбалы...
Ці ня высеяць хочуць мінулага боль
палыном што у сэрца запала...

Яе выпіў я поўную чару
ў застаронку вясковых сяліб.
Мне тагды усьмяхаліся чары
калі сонца цадзілася зь ліп.

Мае вусны ня ведалі сьмеху –
ён упрочках блукаў бязь мяне .
Бывала, як едзеш з начлегу,
ён шопатам ціхім каня абміне...

Дык мае залатыя цымбалы–
высявайце балючыя зыкі!
Ня ўзыйсьці ім у новую весну!
Гэтак плача апошні музыка
ля вясковых паломаных весьніц...

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

У краіне сьветлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

## АНАТОЛЬ БЯРОЗКА

Поле, далёка-шырока поле... І неба над полем
сіняе... Неба бяздоннае... Шолах вячэрні палёў
ціхі, як песьня з грудзёў набалелых, што зь ветру парывам
па струнах вечару ймкне...І слухаюць нівы...
Гэта песьня што полымем пеніць кроў –
гэта песьня аб волі!

Там магілы дзядоў пад крыжамі пахілымі дрэмлюць –
зьдзірванелая спадчына сівых вякоў... Як чорныя раны
ўеліся доўгія цені крыжоў у шэрую зямлю,
ўп-алі на жоўць пяску, ўкрылі траву пад сабою
чорным сумам...

Гэтта, на гэтых курганах
вякамі здабычу дзялілі чужыя багі і цары
і крывавыя іх алтары
дыміліся доўга – нашай крывёю.

За полем хаты. Настрэхах мох павіс зялёны...
Зьвісьлі стрэхі над хатамі. Неба вячэрні пажар
палымее на шыбах чырваньню.Сьцелецца цень па загонах
й рабска паўзе па зямлі... Моў халодная сталь
грудзі зямлі халодны. Вецер ад родных хат –
разьвее мо гора...

Хаты – бедныя, цёмныя... Пад вашымі стрэхамі сонными
сэрца маё вашай доляй жыве, вашым болем сумуе.
Вечар пад стрэхамі сьніць сваю думу - тугу векавую...
З думай - песьняй ад хатаў шырока - разгоннаю
вечар, сэрца, магілы і поле зьліліся ў адзіны псальм –
Крывія!

І моляцца сонцу разоры –
сонцу, што ўжо дагарае на шэрым попеле хмар.

## УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

Эх, сястрыца сінявокая мая!
Дапрадаеш кужаль, шпульку дапрадаеш...
ад кастрыцы, пылу грудзі так смыляць...
Навівайся, нітка, роўнымі радамі.

Напрадзеш на восем, мала! – дзевяць сьцен!
А старая маці у ніты укіне.
Будзе кужаль гэты ў бёрдах шалясьцець,
панажы заляскаюць – весялей дзяўчыне...

Вытчаш, вытчаш плацянковыя страі,
ручнікоў таксама у нітоў дванаццаць...
Кросны, ты і нітка – вось і утраіх...
– Будзеш над ставамі нізенька схіляцца...

Толькі-ж не забудзься, мілая мая
на адну апошнюю выткаць мне кашулю,
бо і мне балюча грудзі так смыляць,
толькі я далёка, дык таму ня чуеш...

ЯНКА КУПАЛА

## Чужым

Мы вас прынялі хлебам і соляй–
Людзі чужыя,
Стрэлі вас ласкай нашага поля
Кветкі жывыя.

Нашы сасонкі шумнага бору
Далі вам хаты,
Далі загонаў нашых разоры
Гонар багаты.

Пух і аўчынкі нашага хову
Грэлі зімою,
Птушкі вам гралі з нашай дубровы
Гімны вясною.

Ценем тулілі вас у сьпякоту
Нашы чарэшні,
Нашыя жнейкі ў жніўну работу
Пелі вам песьні.

Вашым патомкам нашыя маткі
Песьні складалі,
Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі–
Сеў засявалі

Верны славянскім спадкам, браточна
Ў госьцях вас мелі,
І шанавалі людзка, сьвяточна
Ў будні, ў нядзелі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сотні лет песьцім днямі і ночай
Госьця на шыі –
Зьмея, што з пуняў скарбы валоча,
Скарбы чужыя.

Вы ўжо забылі, людзі здарэньня,
Дзе ваш прыпынак,–
Вывелі ў гандаль славу, сумленьне –
Праўду на рынак.

Сьлепа зракліся сораму, ўвагі,
Ў хорамы селі, –
Брацьцям-жа ўзьдзелі лапці, сярмягі,
Торбы надзелі ...

Людзі чужыя! Хтось калісь зьліча
Вашу нам шкоду.
Зьліча праступкі ... к суду пакліча
Крыўда народу.

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

## СОЖ І ДНЯПРО

Сярод глухіх пушч, цёмных бораў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара ,сіваваласага старца Рыдана. З канца ў канец зямлі слыў Рыдан багацьцем нялічаным, а над усе багацьці славілася скрытая за дванаццацьцю дзьверамі, дванаццацьцю замкамі залатая Рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзьверы і выносілі тую карону на сьвет, то, калі на сьвеце была ноч, яна днём станавілся, а калі была зіма, то перамянялася ў лета – так зігацелі дарагія каменьні на Рыданавай залатой кароне.

Завідавалі суседнія валадары і князі гэтай кароне і пастанавілі дабыць яе ў Рыдана. Сазвалі варажбітоў і знахароў і загадалі ім прыдумаць спосаб, каб украсьці карону з Рыданавага скарбца. Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры ночы і прыдумалі разрыў траву, каторай, калі дакрануцца замкоў, то самі адчыняюцца, ды сон-траву, зярняткамі каторай калі пасыпаць, то ўсё наўкруг засынае. Прыдумаўшы гэта, паслалі зладзеяў красьці залатую Рыданаву карону. Тыя, прышоўшы пад харомы, сыпнулі сон-зельле, і ўся варта паснула. Крануліся разрыў-травою замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яны залатую Рыданаву карону і пусьціліся назад.

Устаў раніцай сівы Рыдан, падыйшоў да вакна, ажно глядзь –усе варты покатам сьпяць, увесь народ у сьне безпрабудным валяецца. І зразумеў старац адразу, што няма у скарбцы яго залатой кароны. Падыйшоў ён тады да звана, ударыў раз, ударыў два, і разбудзіліся два Рыданавы сыны–Сож і Дняпро. Зьвярнуўся бацька да Дняпра і кажа «Вазьмі, сынок, сталёвую зброю, каваны меч, і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор – мо дагоніш цікунцоў з каронай. »

Схапіўся Дняпро і чым хутчэй пабег, а Сож астаўся пры бацьку. Сеў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну

–«Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Дняпро»

Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа

–Бегма - бяжыць і не стаміўся яшчэ.

І другі раз кажа бацька

–Прылажы,сынку, вуха да зямлі, паслухай!

Прылажыў сын вуха да зямлі і кажа

–Бяжыць,але цяжка дыхае – шум зямлёй ідзе.

І ўтрэцьце сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа

–Гул зямлёй ідзе і крык вялікі.

Тады ўстаў Рыдан з пасаду і кажа

–Бяжы-ж ты, сынку, імхамі-балотамі на падмогу яму, бо сам адзін не праб еццa ён праз скалістыя горы

Пусьціўся Сож імхамі-балотамі на падмогу брату, а стары бацька сам астаўся ждаць сыноў. Доўга ждаў стары, а не даждаўшыся, з маркоты пачаў плакаць

–Бадай вам, дзеткі мае, сьлязамі разьліцца!

Ды ўлучыў ён такі мамэнт, што такі запраўды разьліліся сьлязамі браты і стары бацька – у рэкі ўсе тры зьмяніліся.

Дняпро плыве садамі ды лугамі, Сож імхамі ды балотамі, а Рыдан – куды вочы глядзяць. А з таго часу ўсе сілы лясного краю плывуць у чужое мора і там прападаюць.